Серада
28 верасня 2006 г.
№ 11 (19)
наклад 299 ас.
Рэдактар: Ігар Шчэкарэвіч

МП свой горад сваімі рукамі

# ПРАЎДА мастоўская

Если вы хотите получать наше издание в дальнейшем, пожалуйста, пришлите sms сообщение с указанием адреса, на который должна приходить **"Мастоўская праўда"** на номер : **+ 370 677 29 646.**

## План дэмакратычных сілаў для ўдзелу у мясцовых выбарах прыняты

**Палітрада аб'яднаных дэмакратычных сілаў на паседжанні 21 верасня прыняла за аснову план выбарчай кампаніі на выбарах у мясцоваыя Саветы.**

Асновай плана стане нацыянальнае пасланне да беларускага народу, якое павінна аб'яднаць усіх прыхільнікаў дэмакратычных пераменаў. Яго трэба выпрацаваць экспертам палітычнай Рады і Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамада). Тых, хто падтрымае пасланне, аб'яднаная кааліцыя заклікае прыняць самы актыўны ўдзел у мясцовых выбарах. Сама выбарчая кампанія будзе выкарыстана альтэрнатыўнымі палітычнымі сіламі ў якасці сродку камунікацыі з насельніцтвам і вылучэння дэлегатаў на новы Кангрэс дэмакратычных сілаў. Каб стаць дэлегатам кангрэса, згодна папярэдняму плану будзе неабходна сабраць 300 галасоў выбаршчыкаў. Падлічваць іх праўдзівасць будуць спецыяльна створаныя выбарчыя камісіі Аб'яднаных дэмакратычных сілаў.

Са словаў лідэра Партыі камуністаў Беларускай **Сяргея Калякіна** *"правядзенне кангрэса гэта адзіны шлях не дапусціць, каб кааліцыя памерла і пайшла да нуля"*. А сябра палітычнай Рады, эксдэпутат Вярхоўнага Савета СССР **Віктар Карніенка** лічыць што *"пры прапанаваным механізме абрання дэлегатаў удзелу у кангрэсе можа быць "адсечаны" вялікі сэгмент прыхільнікаў дэмакратычных сілаў у выглядзе неўрадавых арганізацыяў"*. Лідэр Мастоўскіх дэмакратычных сілаў, дэпутат раённага Савета **Аляксандр Зарэмбюк** лічыць інакш: *"Думаю што выбарчую кампанію ў мясцовыя Саветы дэпутатаў трэба выкарыстоўваць не толькі для агітацыі, трэба ўдзельнічаць у выбарах і дабівацца праўдзівага падліку галасоў і перамагаць. Лічу што час старых партыйных бонзаў адыйшоў. Трэба падтрымліваць маладых незалежных і сучасных кандыдатаў. А што тычыцца чарговага Кангрэсу дэмакратычных сілаў я супраць яго правядзення! На мой погляд трэба займацца рэальнымі справамі з насельніцтвам а не працягваць арганізоўваць Кангрэсы. На гэта на жаль сыходзіць багата часу. У нас ёсць адукаваныя і вельмі інтэлегентныя лідэр Аляксандр Мілінкевіч, таму трэба працягваць праводзіць усе магчымыя мерапрыемствы і справы каб гэты чалавек стаў нашым наступным Прэзідэнтам".*



*Уладзімір Шчэкарэвіч*

## Улада памылілася, арыштаваўшы Змітра Дашкевіча

**Арышт лідэра незарэгістраванай арганізацыі "Малады Фронт" Зьміцера Дашкевіча стаў вялікай памылкай з боку беларускіх спецслужбаў і ідэолагаў." Аб гэтым з вялікай доляй упэўненасці можна казаць, выслухаўшы адказы і меркаванні сябраў гэтай незарэгістраванай арганізацыі на адбыўшайся ў Мінску 22 верасня прэс-канферэнцыі. Улады пайшлі па накатанаму шляху, вырашыўшы дзейнічаць, як і ў выпадку з незарэгістраваным аб'яднаннем "Партнёрства". І памыліліс.**



**Таму што той эфект, які атрымалася дасягнуць арыштамі лідэраў "Партнёрства" за месяц да прэзыдэнцкіх выбараў, у выпадку з Маладым Фронтам чакаць не варта. Больш таго, арышт, прычым ужо не першы, лідэра МФ (дастаткова ўзгадаць Паўла Севярынца), не запугівае сябраў руху, а толькі пераконвае іх у правільнасці сваіх дзеянняў.**

Улады паспяшаліся. Бо Дашкевіч літаральна на вачох, за апошні месяцпаўтары стварыў у рэгіёнах дзеездольныя структуры МФ, гэта ніякім чынам не ўкладвалася ў планы рэжыма напярэдадні кампаніі ў мясцовыя Саветы. Трэба было нешта прадпрымаць. Але ж ніякіх варыянтаў і распрацовак не было, і Дашкевіча банальна "ўзялі", як сцвярджаюць прадстаўнікі МФ, з парушэннем закона, абвінавачыўшы ва ўдзеле ў незарэгістраванай арганізацыі, якую ўлады ніяк не хочуць рэгістраваць яшчэ з 1999 года.

Такія дзеянні рэжыма даюць поўнае права саратнікам Дашкевіча адкрыта гаварыць аб палітычнай матывацыі гэтых дзеянняў, аб парушэнні канстутыцыйных свабодаў і правоў, у тым ліку і права на свабоду стварэння асацыяцыяў і аб'яднанняў.

Самыя маладафронтаўцы не сумняюцца, што справа будзе ў самыя кароткія тэрміны перададзена ў суд, і Зьміцер Дашкевіч наўрадці выйдзе на свабоду. Таму як сябры МФ перакананы, што на судзе Зміцер не стане адмаўляць свайго ўдзелу у МФ. І больш таго, ён прама заявіць, што з'яўляецца лідэрам арганізацыі. Якую моц мае перакананне, распавядаць не трэба. А таму таварышчы Дашкевіча, не адводзячы вачэй у бок, заявілі, што не палохаюцца і наступных арыштаў. І далі зразумець, што зараз у гэтай арганізацыі за лідэрамі справы не стане. Што "Севярынцаў" і "Дашкевічаў" і ў МФ і ў Беларусі будзе больш. А гэта зусім не тая рэакцыя, на якую разлічвалі спецслужбы і ўлады падчас арышту Дашкевіча.

А апроч таго ўлады атрымалі і агульнарэспубліканскую кампанію "Свабоду Дашкевічу", у рамках якой моладзь плануе праводзіць акцыі салідарнасці з палітзняволенымі, распаўсюджваць інфармацыйныя матэрыялы і друкаваную прадукцыю. Плануецца, што кампанія будзе безтэрміновая "да тых пор, паукуль не вызваляць".

*www.bdg.by*

## Мікола Статкевіч застаецца адбываць пакараньне

**Лідэр сацыял-дэмакратаў Мікола Статкевіч не атрымаў умоўна-датэрміновага вызваленьня.** Дакументы, якія былі падрыхтаваныя кіраўніцтвам папраўчай установы ў Баранавічах, так і не дайшлі да суду.

4 верасьня палітыка пад канвоем даставілі з Баранавічаў ў Мар'іну Горку, а пасьля ў камэндатуру вёскі Блонь. На новым месцы ягоны працоўны дзень доўжыцца ад 6:30 да 23:00 без перапынкаў на абед і выходных.

«Паводле такога раскладу не працуе ніводны з «хімікаў». Але я вытрымаю: я чалавек загартаваны, маю добрую фізычную падрыхтоўку. А галоўнае: адчуваю маральную падтрымку маіх сяброў і паплечнікаў па сацыял-дэмакратычнай партыі, усіх людзей, якім дарагая Беларусь і дэмакратыя», -- заявіў Мікола Статкевіч.

«За апошні месяц мяне спрабавалі напаіць, а пасьля вазілі здаваць аналіз крыві на ўтрыманьне алькаголю. Мяне настойліва запрашалі паўдзельнічаць у пікеце, які пасьля маёй адмовы не адбыўся. Далей: калі я выходзіў на працу, мяне пачалі кантраляваць ня толькі супрацоўнікі камэндатуры, але і «сэксоты» мясцовага КГБ. Спрабавалі наладзіць бойку з маім удзелам».

Паводле Статкевіча, галоўная мэта ўладаў адцягнуць дату вызваленьня.

Мікола Статкевіч асуджаны на 3 гады абмежаваньня волі за арганізацыю акцыяў пратэсту супраць фальшаваньня вынікаў рэфэрэндуму і парляманцкіх выбараў у 2004 годзе. Болей за год ён адпрацаваў у папраўчай установе адкрытага тыпу пры Баранавіцкім РУУС

*Вікторыя Салей паводле Радыё Свабода*

# Власть теряет доверие у электората

**После президентских выборов и итоживших их акций протеста оппозиции прошло уже полгода. Как помним, Центризбирком объявил победу Александра Лукашенко с результатом 83%. Оппозиция назвала эти цифры фальсификацией. Хотя, по большому счету, речь о фактическом поражении Лукашенко не шла. Демсилы говорили о порочности системы власти в целом и пытались доказать, что в пользу действующего президента были перераспределены голоса, отданные за демократических кандидатов.**

Такие выводы можно было сделать, в частности, на основе данных независимого социологического опроса, проведенного в конце марта  начале апреля. Результаты опроса показали, что Лукашенко победил в первом туре с результатом 63,6%, Милинкевич набрал 20,6% голосов (по данным ЦИК 6,1%), а Козулин 4,8% (2,2%). То есть, сделали вывод социологи, ради очередной элегантной победы с лицевых счетов кандидатов от оппозиции списали около 20% голосов. Хотя этого и не требовалось Лукашенко мог уверенно одержать и чистую победу, так как уровень его поддержки в обществе по-прежнему высок.

Хотя за прошедшие полгода обозначилась тенденция к его снижению. Так, в ходе проведенного сразу после выборов опроса подтвердили свое желание голосовать за Лукашенко уже 60,3% избирателей, а по данным независимого социологического исследования, проведенного в августе, если бы выборы состоялись сегодня, то за Александра Лукашенко вновь проголосовало бы 54,9% избирателей.

Причем почти треть (29,8%) из поддержавших Лукашенко свой выбор мотивируют тем, что смысла менять президента сейчас нет, так как Лукашенко справляется со своими обязанностями. А еще чуть менее четверти (22,4%) просто не видят достойной альтернативы. 17,9% сторонников Лукашенко опасаются, что с другим президентом "было бы хуже". Из-за личной симпатии голосовать за Лукашенко



готовы 9,9% его сторонников.

Среди тех, кто на гипотетических президентских выборах не стал бы голосовать за Лукашенко (45,1%), доминирует мнение, что первый президент Беларуси "уже показал все, на что способен" 13,2%. 11,8% не желающих голосовать за Лукашенко мотивируют свое решение емким фактором "достал". 11,5% считают, что участие Лукашенко в президентских выборах незаконно. Более 11% недовольны проводимой Лукашенко внешней политикой. 8,8% считают, что Лукашенко не выполнил своих обещаний. Уверенность в том, что есть и более достойные политики, высказывают 7%. Ухудшения своего уровня жизни за время правления Лукашенко отметили 5,2% противников президента.

Можно предположить, что уменьшение числа сторонников Лукашенко вызвано в немалой степени напряженностью в отношениях с Россией в области поставок в Беларусь энергоносителей. Как не раз отмечалось, экономические успехи последних лет и выстраиваемая на этом фоне социальная модель во многом обусловлены благоприятной для Беларуси конъюнктурой цен на газ, нефть и продукты ее переработки.

Если Россия, фактически официально высказавшая сомнения в необходимости дальнейшего дотирования белорусской экономики, повышенными ценами на энергоносители ограничит поток "нефтедолларов", то последствия такого шага, безусловно, скажутся на уровне жизни простых белорусов. Что, в свою очередь, может еще в большей степени понизить уровень доверия электората к нынешней власти и ее лидеру.

Такую перспективу, кстати, в качестве наиболее вероятной рассматривают и оппозиционные силы. Например, председатель Партии БНФ Винцук Вячорка считает, что сейчас оппонентам Лукашенко необходимо готовиться к весне 2007 года, которая, по его прогнозам, "будет горячей", так как экономическая ситуация в стране к этому времени, скорее всего, ухудшится из-за изменения ценовой политики на энергоносители со стороны России. "В марте будут происходить большие события. И надо готовиться к ним", говорит политик.

*Александр ЗАЙЦЕВ*

# Открытые дебаты между Милинкевичем и Лукашенко на «Би-би-си»

**В связи с тем, что 18 сентября Александр Лукашенко дал интервью радиостанции "Би-би-си" лидер демократических сил Беларуси Александр Милинкевич обратился к руководству радиостанции с обращением, в котором призвал провести открытые дебаты между ним и Лукашенко.**

*«В интервью, которое Александр Лукашенко дал русской службе «Би-би-си» 18 сентября, он представил свое видение белорусской политической ситуации, где вспомнил о политических заключенных, выборах и свободе слова. По моему мнению, интервью Лукашенко, в котором много неточностей, является красноречивым примером того, как его пропагандистская машина манипулирует фактами и мнением белорусов… В связи с этим, учитывая репутацию «Би-би-си» как одного из наиболее авторитетных мировых СМИ, мы предлагаем Вам поспособствовать демократическим дебатам и дать слова представителям демократических сил Беларуси»,* -- заявил **Александр Милинкевич.**

По мнению политика, *«международные свободные средства массовой информации это те немногочисленные возможности, где у нас есть равные условия с режимом, чтобы выразить наши взгляды на ситуацию в Беларуси. Для нас это очень важно, поскольку из-за правления Лукашенко в белорусских подконтрольных власти СМИ полностью отсутствуют равные условия*



*для демократических дебатов».*

Если «Би-би-си» решит предоставить демократам такую возможность, предлагаются следующие формы их участия в эфире:

1. Открытые дебаты между Александром Лукашенко и Александром Милинкевичем
2. Приглашение А. Милинкевича в программу Hard talk;
3. Интервью с А. Милинкевичем;
4. Открытые дебаты между представителями демократических сил и режима.

*Источник: www.charter97.org*

# статыстыка

**Доля стратных прамысловых прадпрыемстваў у Беларусі склала 25,9% за сем месяцаў 2006 г.**

*Крыніца: Партал TUT.BY*

# АБ'ЯВА

**Калі вы хочаце атрымліваць штодзённую рассылку навінаў "Свабоды" на ваш мабільны тэлефон, дашліце нам свой нумар тэлефона. Дасылайце смс на нумар 391-22-24.**

МАСТОЎСКАЯ ПРАЎДА
грамадзка-інфармацыйнае выданне Мастоўшчыны
№ 11 (19) 28 верасня 2006 г.
**Заснавальнік: Аляксандр Зарэмбюк.** дэпутат 24 склік. Мастоўскага райсавета.
**Галоўны рэдактар: Ігар Шчэкарэвіч.**
**Верстальшчык: Сяргей Губарэвіч.**
Наклад: 299 асобнікаў.
Адрас рэдакцыі: г. Масты вул. Я.Купалы 1 . Беларусь.
e-mail: **masty.prawda@hotmail.com**
Надрукавана на фінасавыя ахвяраванні жыхароў г. Масты ў друкарні ААТ Бліц-Прынт, г. Кіеў вул. Даўжэнка, 9.
Выходзіць 1 раз на 2 тыдні.
Распаўсюджваецца бясплатна.
Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць інфармацыі.